# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 32 (1682) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 7 ЖНІЎНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.




Гміна **Гарадок** Беластоцкага ваяводства і **Бераставіцкі** раён Гродзенскай вобласці ўжо здаўна падтрымліваюць між сабою пастаянныя сяброўскія кантакты. Найбольш наглядна гэтае дружалюбнае супрацоўніцтва праяўляецца ў час масавых мітынгаў і сустрэч насельніцтва, якія з нагоды розных важных гадавін або дзяржаўных свят наладжваюцца ў Гарадку ці ў Бераставіцы. Для прыкладу, у святкаванні 70-й гадавіны Вялікага Кастрычніка ў лістападзе мінулага года прыняла ўдзел шматлюдная дэлегацыя ад Гарадоцкай гміны, а вось у нядзелю, 17 ліпеня г.г. ліпеньскае свята супольна з жыхарамі Гарадка і навакольных вёсак адзначылі таксама і жыхары Бераставіцы ды Бераставіцкага раёна, якія на сямі аўтобусах прыехалі да нас у госці.

Прадстаўнікі Гарадоцкай гміны сустракалі сваіх сяброў на граніцы ў Баброўніках. На жаль, на гэты раз не паспрыяла пагода. Ад раніцы безупынку падаў надакучлівы дождж, нізка над зямлёю віселі цяжкія, набрынелыя вадою, шэрыя хмары. Таму і гаспадары Гарадоцкай гміны адступілі ад прывітальнай цырымоніі, прадбачанай традыцыйна на граніцы. Проста і звычайна з прывітальнымі букетамі кветак хуценька даселіся да гасцей і разам з імі цераз дождж паімчаліся ў Барок, што пад Гарадком. Гэта высокі і прыгожы лес, у якім ужо традыцыйна наладжваюцца ўсялякія буйныя народныя святкаванні і розныя шматлюдныя мітынгі.

І ў гэтую дажджлівую нядзелю падгарадоцкі Барок пераўтварыўся ў своеасаблівы вясёлы, урачысты і гаманлівы пасёлак, дзе ладзіліся сяброўскія сустрэчы, дзе ў польскіх і савецкіх лаўках, на залатоўкі і на рублі, можна было купіць сабе шмат чаго карыснага. Гандлёвая частка гэтай сяброўскай сустрэчы была тут асабліва багата разбудавана. Арганізатары ўрэшце ўцямілі сабе гэтую, даўно вядомую праўду, што гандлёвы бок падобных мерапрыемстваў заўжды найбольш цікавіць не толькі звычайных людзей, але і дае добрую выручку гандлёвым

(Працяг на стар. 6)


АЛА ДУБЕЦ.

## Голас нашай зямлі

Ала Дубец заваявала галоўную ўзнагароду ў конкурсе „Беларуская песня'88“: экскурсію у СССР. Гэтую ўзнагароду ўжо трэці год дае беларускаму конкурсу Ваяводскае праўленне ТПЦР у Беластоку. Узнагароды прызнаюцца не толькі за песні, з якімі спявак выступае ў конкурсе, але і за цэласнасць працы на беларускай культурнай ніве. Ала ў Саюз яшчэ не з'ездзіла. Яна хоча паехаць у Сібір, пабачыць „слаўнае мора — свяшчэнны Байкал“. Пры нагодзе скажам, што першую такую ўзнагароду заваявала яе слаўная маці Люба Гаўрылюк.

Ала спявае вельмі добра — скромна сказана. Ала спявае чароўна! Спявае патрыятычна! Яна — жывы доказ нашай беларускай неўміручасці па ўсёй Беласточчыне і ў горадзе Беластоку тым больш. Залягае цішыня сярод публікі, калі Ала пачынае песню. І нават людзі, устаноўленым у нас звычаем, не падспеўваюць за ёю, седзячы на месцах, заслуханыя ў шырокі дыяпазон яе голасу. Яе песні заўсёды насычаны любоўю да роднага краю, беларускай спадчыны, усяго беларускага. Такія песні падбірае і спявае Ала. Гэта характэрная рыса яе вакалістыкі.

Часта выступае са скрыпкай. Акампаніруе сабе або іншым. Яе скрыпка (прыпомнім, што скрыпка — стары беларускі народны інструмент) сваім гукам прыносіць нам з сівой мінуўшчыны голас душы нашых продкаў. Я люблю Алу са скрыпкай. Многім — яна і яе скрыпка — неадлучны.

Помню Алу Гаўрылюк з маленства, з яе падлеткавых гадоў. калі ў народным строі яна смела выступала, спяваючы і іграючы на скрыпцы беларускія песні перад самай сур'ёзнай публікай. Ала вельмі даўно ўжо з'яўляец-

(Працяг на стар. 4)




**У канцы красавіка 1988 г. у Гродне праходзіла канферэнцыя савецкіх і польскіх гісторыкаў, прысвечаная традыцыі дружбы і супрацоўніцтва народаў Савецкага Саюза і Польшчы. Сярод удзельнікаў канферэнцыі быў вучоны з Масквы Аляксей Канстанцінавіч Каўко, зараз галоўны рэдактар журнала „Советское славяноведение“. Гутарку з вучоным вядзе гродзенскі журналіст Сяргей Астраўцоў.**

**Сяргей Астраўцоў:** Вы ўзялі ўдзел у навуковай канферэнцыі, што адбылася ў Гродне. Якія пытанні абмяркоўваліся на ёй, якое яна мела прадстаўніцтва і чаму месцам правядзення быў абраны менавіта наш горад?

**Аляксей Каўко:** Канферэнцыя, дакладней рабочая сустрэча гісторыкаў СССР і ПНР, адбывалася пад гадавіну вядомай Дэкларацыі, падпісанай кіраўнікамі братніх партый М. С. Гарбачовым і В. Ярузельскім. Абмяркоўваліся традыцыі сяброўства і супрацоўніцтва народаў Савецкага Саюза і Польшчы. Наколькі вопыт мінулага можа і павінен спрыяць станоўчаму развіццю гістарычнай свядомасці, узаемнаму пазнаванню і дружалюбству народаў-суседзяў, як таму маглі б лепей садзейнічаць супольнымі намаганнямі вучоныя і грамадскія арганізацыі, менавіта таварыствы дружбы — галоўны клопат удзельнікаў сустрэчы. Згадаю яшчэ пра беларуска-польскія сюжэты, што таксама прагучэлі на гэтым спатканні: беларускае пытанне і польскі рабочы рух (канец XIX — пачатак XX ст.), сумесная барацьба камуністаў, працоўных Польшчы і Заходняй Беларусі; узаемадзеянне беларускіх дэпутатаў і фракцыі КПП у Сейме. Вопытам развіцця сяброўскіх сувязей Гродзеншчыны і Беласточчыны падзяліліся кіраўнікі абласнога аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы. Згадваліся на канферэнцыі, сярод іншых, і прозвішчы Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Элізы Ажэшка, Ігната Буйніцкага, Цёткі, Браніслава Тарашкевіча, Сяргея Прытыцкага — гонар зямлі Гарадзенскай, высокія сімвалы рэвалюцыйнага і творчага пабрацімства нашых народаў. Так што горад над Нёманам зусім не выпадкова стаў месцам спаткання. Нашыя калегі з ПНР таксама выказалі па-

(Працяг на стар. 7)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 350


Юры Кісялеўскі

## РАЗВІТАЛЬНАЕ ПАВІТАННЕ

*Жаўрук спяваў.*
*І яблыня цвіла.*
*Ты дачакаўся красавання траў!*
*Ужо не ў першы раз*
*Вясновага цяпла*
*Па-над зямлёю хваля праплыла —*
*І ты адвечны атрымаў адказ*
*На ўсе свае адвечныя пытанні.*

*І колькі ты яшчэ разоў*
*Паўторыш прагна закліканне,*
*Каб ён прыходзіў зноў і зноў:*
*І цёплы подых веснавых вятроў,*
*І жаўрука бясконцы спеў,*
*І пацалунак паміж дрэў,*
*І яблыневы сад у пору адцвітання!*

*І кожны раз даеш нямую згоду*
*На лепшую з усіх узнагароду:*
*Падняцца ў неба, павітаць сусвет,*
*А потым легчы на зямлю, бы яблыневы цвет,*
*І развітацца з ёю — раз і назаўсёды.*

## ПРОЦІБОРСТВА

*Груган цыбаты,*
*Што каркае гучна*
*Пра скарацечнасць жыцця,*
*Прарочыць рашуча*
*Хуткі прыход небыцця*
*І абвяшчае нам немінучасць смерці, —*
*Груган праклятьы*
*Пасяліўся ў маім сэрцы.*

*Сава сівая,*
*Сляпое стварэнне,*
*Што нам варожыць аб марнасці нашых імкненняў,*
*І будзіць плачам глухую шыр, —*
*Сава старая*
*Шукае*
*Прытулку*
*Ў закавулку*
*Маёй душы.*

*Слімак цынічны,*
*Які бярэ пад сумненне*
*І шэпт крынічны,*
*І зор мігценне,*
*І ганьбіць прывычна*
*Літую непахіснасць маралі,*
*Што марна стваралі*
*Багі-і людзі, —*
*Слімак нікчэмны бянтэжыць мае пачуцці.*

*Нячысцік — Змей,*
*Што адамкнуў мне, як маг-чарадзей,*
*Бяздонны калодзеж пазнання, —*
*І той, без усялякага спачування*
*І нават без лішняга роздуму,*
*Закінуў мяне ў засценкі журбы*
*І нішчыць у цемры агеньчык слабы*
*Майго мізэрнага розуму.*

*Спрачаюся з імі аж да знямогі,*
*Хоць ведаю: можа не быць перамогі.*
*Няўжо ў гэтай спрэчцы, пустой і дарэмнай,*
*Што цягнецца часам аж да світання,*
*Хаваецца сэнс патаемны*
*Пазнання*
*І мэта майго існавання*
*На гэтай зялёнай планеце,*
*І гэтым цудоўным і жудасным свеце?*

## Джойс у Беластоку па-беларуску

Малады наш літаратар Ян Максімюк перакладае на беларускую мову славуты твор Джэймса Джойса „Уліс". Цэласць — у трох кнігах. Нядаўна Я. Максімюк выдаў уласным коштам першую кнігу. У „Дадатку" да гэтага выдання змясціў ён эсэ Рычарда Эльмана, выдатнага амерыканскага знаўца творчасці Джэймса Джойса.

З'яўленне гэтай кніжкі, несумненна, падзея ў нашай культуры. На жаль, не без некаторай сумнай задуменнасці: у нас няма магчымасцей выдаваць нармальным друкам нават раманы сваіх „белавежцаў", не кажучы ўжо пра так аб'ёмныя перакладныя кніжкі, як „Уліс". Аптымістычнае, аднак тое, што за трыццаць гадоў існавання літаратурнага аб'яднання „Белавежа" з'явілася ў Беластоцкім краі не толькі добрая проза, але і вось першая перакладная кніжка, акурат з вялікай англамоўнай літаратуры (Джойс — ірландскі пісьменнік). Перакладаць з болей развітых моў — гэта спрыяць развіццю ўласнай нацыянальнай мовы. Беларуская мова Яна Максімюка бліскуча вытрымала параўнанне яе з англійскай літаратурнай моваю. У гэтым і галоўная цана Максімюковай працы, акрамя, вядома, таго, што нашаму чытачу даў ён не абы-які падарунак, менавіта самога „Уліса" Джэймса Джойса!

**(СЯ)**

Настуся Карабельнікаў выходзіла замуж, калі добра настала Польшч. Шаснастоўкаю выперла яе мачаха. Каб сваім дзецям хлеба болей мець. Пасватаўся да Настусі ўдавец, які пахаваў чатыры жонкі. Пра пасаг ён і не гаварыў; набраўся.

— Трымацьму цябе, як паню якую! — бляяў, расчырванелы ў запіванне. — У мяне поўная хата ўжо вялікіх дзяўчат, і яны ўсё паробяць. Сын у нас будзе — таксама выгадуюць.

— Дай Бог, — мармытаў бацька. За паслярэвалюцыйную галадуху першы раз наліў горла, ажно блага яму зрабілася.

— Чаму гэта Бог меў бы пашкадаваць такому мужчыне?! — рагатала мачаха, адганяючы ад стала смургеляў.

Настуся — памятае — мала не папрасіла ў так багатага дзядзькі цукерку... Ёй захацелася, каб ён не пакідаў яе тут да вяселля. Маўчала, апусціўшы галаву, баючыся прыліпнуць вачыма да яечні са скваркамі і нарэзаных ад буханкі скібаў.

Усе вясельнікі плакалі, калі Настуся Карабельнікаў ехала шлюб браць. — Пашчасціла сіраце, — гаварыла мачаха, абціраючыся ад слёзаў. І як бы ў апраўданне, што нічым вартым не здарыла, а яшчэ і напазабірала з куфра. Гулялі толькі адзін дзень, да вечара; начамі хадзілі талы банды.

Настусін чалавек доўга не пажыў; раптам памёр (у сенаванне). Падчарыцы падняли рогі. Большая гразілася.

— Дурная ты, дзіця прывядзі ім, і нікуды яны не турнуць цябе з гаспадаркі! — крычала напалоханая мачаха. — Трэба, каб жывот табе хто прыстроіў, пакуль нябожчык стыне, — даўмелася. І выправіла Настусю кудзелю прасці ў гэтак жа бойкай цёткі. У той далёкай вёсцы падваліўся да яе ніштаваты набабнік.




Потым, перамогшыся мяшкамі ў капанне бульбы, нарадзіла яна на паўтара месяца раней. Як і не трэба лепей. За сакрэт дала акушэрцы парася; у торг гэта працялі Настусю болі і спекулянт паганяў яе каня пад местачковы шпіталік.

Хлопец хварэў, дзякаваць Богу, як і ў людзей. І зямлі прыйшлося ёй даволі, і хата. Другі муж быў непатрэбны. Сама моцная, бывала, за плугам хадзіла і касу цягала ды і ў лес за дровамі давала рады. — Ад'елася да нерасту, — зайздросцілі ёй заморанікі.

Дапякалі Настусі нават у вайну, заўдаўшы, што яе Юрачка хаваецца ад вывазаў на работы ў Нямеччыну. З'явіліся жандары, але адступіліся: што набярэш пасля на кантыгент ад самюткае бабы? І наківалі солтысу, чаму слаба думае!

Кожную наступную ўладу яна ўспрымала як нецярплівейшы гнеў нябёсаў на народ за грахі. Паны секлі бізунамі; свае заеліся вывалакаць у Сібір адзін аднаго; немец прыбіўся — кулю ў лоб ды ў пясок! Прычакалі і пекла: сусед суседа лупіў, са свету зводзіў брат брата (яе качалі і бралі пад сябе заполянскія кавалеры, што з вінтоўкамі рабавалі хутары).

Усякага зазнала, перацярпела. А Сталінка лішне мацюгаюць; з анёламі, пэўна, у раі спявае. Хто ж гэта, каб не ён, мужыка адагнаў бы ад поля і хлява ў горад?! І Настусін не скончыўся б, як дэраш у аглоблях, калі б датрываў... Юрачка стаў тэхнікам на фабрыцы, дык і яго, падлу старога, забраў бы ў сваю блокавую кватэру.

Быццам у пажар кінулі-рынулі ўсё тое, пра што цяперка і падумаць ім не здумаецца.

— Во калі я пані! — папракала Настуся Карабельнікаў паўзабытага за столькі гадоў і гора свайго нябожчыка, дрыпаючы па дыванах. — І ты панам паваляўся б, бы жыд у пярынах, але што ж: цераз работу ад рання да змяркання на той свет без пары пайшоў...

**Сакрат Яновіч**
*(чэрвень '88)*



*Уладзімір Наўмюк. Рыбак*
*Фота М. Гайдука*




(Працяг са стар. 1)

прадпрыемствам з абодвух бакоў дзяржаўнай граніцы. Дык і ў Барку найбольшы натоўп людзей, нягледзячы на непагадзь, наглядаўся каля таварных ларкоў. Працавалі таксама два „зялёныя рэстараны“ і перасовачныя гастранамічныя пункты. Гарэлкі, аднак, яны не прадавалі, толькі піва і халодныя напіткі, а з Бераставіцы даставілі традыцыйны, вельмі смачны, рускі квас.

Хаваючыся ад дажджу, прадстаўнікі ўлад Гарадоцкай гміны ў асобах: **Юрка Цыванюк** — I сакратар гміннага камітэта партыі, **Яўгеній Паплаўскі** — начальнік гміны і **Мікалай Ваўранюк** — нававыбраны старшыня гміннай рады нарадовай найперш запрасілі сваіх гасцей на гарачы чай, які наладзілі яны ў скромным памяшканні гміннага камітэта партыі ў Гарадку. Дэлегацыю ад Берастаўіцкага раёна ўзначальвалі: I намеснік старшыні райвыканкома — **Іван Максімавіч Захарчук** і механізатар калгаса імя Жданава, дэлегат на XIX Усесаюзную партыйную канферэнцыю — **Пётр Мікалаевіч Дарошка**.



*У „зялёнай святліцы“ быў наладжаны ўрачысты мітынг. На здымку: прадстаўнікі ўлад ад Берастаўіцкага і Купішкіскага раёнаў ды Гарадоцкай гміны ў прэзідыуме гэтага мітынгу.*

Была таксама пяціасабовая дэлегацыя ад **Купішкіскага раёна, што на Літве. Яе ўзначальваў Янас Блажавіч'юс** — другі сакратар райкома Кампартыі Літвы. Раённы цэнтр **Купішкіс** знаходзіцца ў паўночнай Літве. Хацелася ведаць, якімі шляхамі завязалася дружба між беларускім Гарадком, што ў Беластоцкім ваяводстве, і літоўцамі з Купішкіс? Маю цікавасць задаволіў сакратар Юрка Цыванюк. Ён сказаў:

— У мінулым годзе давялося мне пабываць у Купішкіскім раёне. Мне спадабалася адвага і наватарства тамашніх камуністаў ў ажыццяўленні ўсесаюзнай перабудовы. Іх вопыт хацелася б пераймаць і прыстасаваць да нашых патрэб. Вось я і запрасіў таварышаў з Купішкіс пабываць на нашым свяце з нагоды 44 гадавіны з дня адраджэння Польшчы. Спадзяюся, што нашы аднаразовыя кантакты пераўтворацца ў пастаяннае і трывалае ды ўзаемнавыгаднае супрацоўніцтва.

Прысутны на гэтай сустрэчы старшыня калгаса „Жайдэліс“ — **Юльюс Юрэнас**, адразу выявіў жаданне набыць у гаспадароў Гарадоцкай гміны польскі камбайн тыпу „Бізон-супер“. І гэтая прапанова не выклікала аніякага здзіўлення. Суседскі абмен машынамі і таварамі стаў ужо звычайнай нормай прыгранічнага сужыцця. У мінулым годзе, для прыкладу, спулдзельня прадукцыйная ў Баброўніках адправіла ў суседні калгас Берастаўіцкага раёна такі ж самы, лішні для іх, камбайн „Бізон“. Узамен атрымала яна грузавік „Камаз“, дэфіцытны ў нас цэмент і бляху для пакрыўкі дамоў.

— Як вы гэта афармляеце? — цікавіліся госці з Літвы.

— А вельмі ж проста, — згодна паяснялі прадстаўнікі Гарадка і Берастаўіцы. — Звонім сваім пагранічнікам, каб прапусцілі дамоўлены груз, шлагбаўмы па абодвух баках граніцы ідуць уверх, мы жадаем шчаслівай дарогі і, аформіўшы барыш, развітваемся да наступнай сустрэчы.



*Асабліва багата была разбудавана гандлёвая частка сустрэчы. Пастараліся аб гэтым гандлёвыя ўстановы Беластока і Гродна.*

Адным словам, так, як павінна быць між дружнымі суседзямі. Без лішняй паперкавай валакіты, непатрэбных пасяджэнняў, важных дырэктараў і ганарыстых сакратарак... У мінулы жніўні сезон, калі спатрэбілася дапамагчы ва ўборцы збожжа, з Гарадоцкай гміны рушылі цераз граніцу на палі Берастаўіцкага раёна вызваленыя ўжо ў нас ад працы магутныя „Бізоны“. Сёлета наладжаны супольны адпачынак для дзяцей у піянерскіх і гарцэрскіх лагерах па абодвух баках дзяржаўнай мяжы.

Сяброўская гутарка ў памяшканні Гарадоцкага камітэта партыі задоўжылася да звыш дзвюх гадзін. Асабліва цікава было паслухаць, як наладжваецца сямейны падрад у калгасах, у прыватнасці і ў калгасе „Жайдэліс“. Адна сям'я, для прыкладу, двое пенсіянераў, — гаварыў старшыня гэтага калгаса, Юльюс Юранас, — дагаварылася, што возьме ад калгаса ў падрад 40 дойных кароў. Калгас ім звычайна прадае па дзяржаўнай цане розныя кармы і ўсё іншае, што неабходнае да гадоўлі жывёлы, а сам па дамоўленай цане купляе ад іх малако, якое затым пастаўляе дзяржаве, маючы ад кожнага кілаграма малака нейкіх 7 капеек чыстай выручкі. Вопыт наказаў, што ў гэтай сям'і надоі ў сярэднім павысіліся амаль на сто літраў ад кожнай каровы ў гадавым разліку. Проста даў знаць пра сябе дбайны догляд жывёлы. Адлічыўшы ўласныя затраты, месячная зарплата ў гэтай сям'і пенсіянераў-падрадчыкаў складае каля 450 рублёў на асобу ў месяц.

А 11 гадзіне, нягледзячы на безупынны дождж, у Барку распачаўся ўрачысты мітынг. Былі палымяныя прамовы прадстаўнікоў гарадоцкіх, берастаўіцкіх і купішкіскіх улад. Усе аратавалі за мір і мірнае супрацоўніцтва, спасылаліся на нядаўна завершаны візіт Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова ў Польшчы, высока ацэньвалася дружалюбнае суседства, прадстаўнікі арганізацый ветэранаў вайны і працы з абодвух бакоў зачыталі рэзалюцыі ў абарону міру, прагучэлі гімны абедзвюх дзяржаў і месца на сцэне занялі артысты Беластоцкай эстрады. За гэты канцэрт арганізатары сустрэчы заплацілі 250 тысяч злотых ды яшчэ аплацілі давоз артыстаў у Гарадок і іх харчаванне. Аказалася, на жаль, што скурка не варта была выпраўкі. Гэты рэкламаваны канцэрт не выклікаў амаль аніякага зацікаўлення. Людзі чакалі песень, сваіх родных песень, у выкананні перш за ўсё хору Берастаўіцкага дома культуры. Гэты 60-асабовы самадзейны калектыў існуе ўжо 12 гадоў. Працуе ён пад кіраўніцтвам **Яна Кухарскага.** Складаюць яго ў большасці жанчыны, працаўнікі розных Берастаўіцкіх устаноў і прадпрыемстваў. Давялося мне, для прыкладу, гутарыць з брыгадзірам птушкаводчай фермы і з настаўнікам сярэдняй школы. Усе члены калектыву прыгожа апрануты ў стылізаваныя народныя беларускія ўборы. На жаль, небагата беларускіх народных песень у рэпертуары гэтага хору. Пераважаюць рускія напевы. Выканалі яны таксама некалькі і польскіх песень. І гэты канцэрт выклікаў вялікае зацікаўленне ў прысутных на сустрэчы. Прасторная „зялёная святліца“ запоўнілася да адказу. Нават многія прыхільнікі гандлёвых зносін на гэты час перасталі мясіць раскіслае балота навокал таварных ларкоў і кіраваліся бліжэй да эстрады.

Пасля самадзейнікаў з Берастаўіцы з кароценькім канцэртам выступіў заслужаны хор з Гарадка.



*Выступіў самадзейны хор з Берастаўіцы.*

Пад вечар аўтобусы з жыхарамі Берастаўіцкага раёна накіраваліся ў бок дзяржаўнай граніцы. Прадстаўнікі раённых улад з Берастаўіцы і Купішкіс засталіся яшчэ ў Гарадку, каб у наступных днях у рабочым ужо парадку пазнаёміцца са справамі гэтай жа гміны. Між іншым, пабывалі яны ў **Яўгенія Бараўскага**, які жыве ў Баброўніках і апрацоўвае 130 гектараў зямлі. Яго гаспадарскі вопыт асабліва цікавіў савецкіх гасцей.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Алена Мімрык
Дзіяна Энціна




Працяг (3)

### ЯК РАТАВАЛІ БАБУЛЮ

— Фернанда, хадзі дадому! Колькі разоў я павінна цябе клікаць?

— Хвілінку, мама, я зараз!

Маці зірнула ў акно. Скрозь зеляніну дрэў яна ўбачыла чатыры дзіцячыя галавы.

„Што дзеці робяць там? — падумала жанчына і пазнала Тамба-Тамба, сына вартаўніка бальніцы, а таксама Мамба, сябра свайго сына. — А хто ж там яшчэ? Нейкая дзяўчынка. Відаць, Воля, дачка доктара Валеры".

Дыадыара, маці Фернанда, выйшла на двор і спынілася каля дзяцей. Яны з захапленнем гаманілі і нават не ўзнялі галоў. Фернанда штосьці маляваў на пяску тонкай галінкай і горача пераконваў сяброў.

Тамба-Тамба насміхаўся з яго. Воля сур'ёзна і ўважліва слухала тлумачэнні Фернанда.

— Добры дзень, дзеці! Добры дзень, Тамба-Тамба. Як адчувае сябе бабуля?

— Добры дзень, мадам Дыадыара. Маёй бабулі вельмі кепска. Яна ляжыць на цыноўцы.

— Мне шкада тваю бабулю. Можа, яе трэба паказаць доктару?

— Дзякую, мадам Дыадыара, за параду, але ў гэтым няма патрэбы. У нашай вёсцы старых людзей не лечаць і не паказваюць дактарам.

Фернанда з маці накіраваліся да свайго дома. А Воля здзіўлена паглядзела на Тамба-Тамба:

— Як гэта — не паказваюць? Чаму?

— Жыццё іхняе канчаецца, і яны павінны саступіць месца маладым. Старыя людзі кладуцца на цыноўку каля ўвахода ў хаціну і чакаюць прыходу „ненажэрнай".

Ад абурэння Воля высока ўзняла бровы, шчокі яе заружавеліся.

— Што ты кажаш, Тамба-Тамба?! — здзівілася яна. — Як гэта — „саступіць месца"? Месца хопіць усім на зямлі: і старым і маладым. Старых людзей павінны шанаваць і паважаць. Вось!

— Іх і паважаюць. Калі ў вёсцы збіраюцца аджаніць чыйго-небудзь сына ці выдаць замуж дачку, заўсёды слухаюць, што скажуць старыя людзі. Калі ж „ненажэрная" ідзе па іх, ніхто не можа перапыніць ёй дарогу!

— Што значыць „ненажэрная"? — спыталася Воля. — Так ты смерць называеш?

— Цішэй! — зашапталі Тамба-Тамба і Мамба. — Не вымаўляй гэтае слова!

Дзеці захваляваліся, кожны пакратаў нейкую драўляную фігурку, што вісела на шыі.

— Якія вы смешныя! Мой тата ў бальніцы кожны дзень змагаецца са смерцю. Вы ж ведаеце яго. Мне здаецца, ён можа вылечыць і старых людзей.

— Дзякую, Воля, ты вельмі добрая дзяўчынка. Але ў нашай вёсцы ніхто не будзе станавіцца на дарозе „ненажэрнай"!

Дзяўчынка задумалася моцна, сцяўшы вусны. Здавалася, яна прымае нейкае рашэнне.

— Я пайду, да пабачэння, — раптам сказала Воля. — Мама чакае абедаць.

— Абедаць?! Хіба вы абедаеце днём? Усе ж абедаюць вечарам пасля работы?

— Вечарам пасля работы ў нас вячэраюць. Вечарам не ядуць суп. Ну, да сустрэчы!

— ✻ —

— Расказвай, дачка, што здарылася. Ты нейкая заклапочаная, — сказаў Валерый Васільевіч. Ён сеў за стол, высока падняў вільготныя рукі: паляпваючы далоню аб далонь, сушыў іх. Зусім як у аперацыйнай.

Воля падала тату чысты ручнік, ён узяў яго і яшчэ раз прасушыў рукі.

— Сапраўды, тата, ты не памыляешся. Тамба-Тамба расказаў, што ў вёсцы не хочуць лячыць старых людзей, і яго бабуля ляжыць на цыноўцы, чакае „ненажэрную"!

— Ці далёка гэтая вёска ад горада?

(Працяг на стар. 10)



Вучні пятага і шостага класа, якія вывучаюць беларускую мову, з гайнаўскай школы на Юдзянцы.

Фота Я. Чэрнякевіч.



Салісты мастацкага музычнага калектыву са школы ў Пашкоўшчыне Кася Залеўская, Юрка Кулік і Ася Бурак выступілі ў школьным конкурсе беларускай песні.

Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Ніна Галіноўская

### ЗОРАЧКА

— Дзе ты хадзіла,
Зорачка наша?
— Траўку духмяную
Скубла на пашы.
Чыстай вадзіцы
Дала мне рака.
Многа прынесла
Я вам малака.

### СЦЕРАЖЫСЯ

На купіне жаба прысела
Заснула на сонейку смела.
— Жабуцька,
Ты спі адным вокам —
Буслы тут
Зусім недалёка.

### ЗАГАР

Мне на спінку
Сонца села
І фарбуе-грэе цела.
Падстаўляю рукі, твар:
— Намалюй і тут загар.

### У ГРЫБАХ

Хто сарваў мой грыбок?
Пышнахвосты звярок.
Мне ён хвосцікам махнуў
І на дрэва сігануў.

### ЖЫТА

Жыта рукі казыча.
Не спяшай да двара.
Перапёлачка кліча:
— Жаць пара, жаць пара!

### ЧАРОТАВЫ КОТ

Не сумнявайцеся, я —кот.
Расці спяшаўся, як чарот.
Таму і вымахаў такі.
Вы не дзівуйцеся, браткі!

### КОЦІК

Коцік-вуркоцік
Лёг на жывоцік.
Лапкі пад вушка —
Не трэба падушка.

### ВЕЦЕР-ЖАРТАЎНІК

Нешта ветру
Не сядзіцца —
Хоча дожджыкам
Памыцца.
Запылілася чупрына:
Пыл круціў ён
За машынай.
Вецер спрытна
Гаспадарыць —
У табун
Збірае хмары.
Дождж затупаў:
„Цок-цок-цок".
Вецер скокнуў...
Пад масток.

### НА ГАРЫ СТАЦЬ ГАРА

Каля нашага двара
На гары стаіць гара.
А на той гары дубок.
На дубочку жалудок.
І яшчэ арэхаў пяць.
А што далей — не відаць.

### ЗАХВАРЭЛА

Басанож хадзіла Мура.
У яе тэмпература.
Я пашыла кошцы тапкі,
Каб яе не мерзлі лапкі.




(Працяг са стар. 9)

— Не ведаю. Але можна ўзяць з сабою Тамба-Тамба.

— ✲ —

Тамба-Тамба вельмі ўзрадаваўся. Ён гатовы быў ехаць з Воляй хоць на край свету.

Праз хвіліну машына выехала з двара. Па дарозе Валерый Васільевіч папрасіў Тамба-Тамба расказаць пра вёску, дзе жыве бабуля.

— Я лепш раскажу пра бабулю маёй бабулі, як яна ратавалася ад „ненажэрнай", і вам многае стане зразумелым з гісторыі нашай вёскі.

— Што ж было з бабуляй тваёй бабулі?

Працяг будзе.



Вучань чацвертага класа Пеця Каліноўскі з Нараўкі ўдзельнічаў у сёлетнім конкурсе беларускай песні для школьнікаў.

Фота Я. Чэрнякевіч.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 1, кв. 23. Таня Перагудава. 5 клас.

✲ ✲ ✲

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 51, кв. 28. Лена Грэковіч. 5 клас.

✲ ✲ ✲

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 51, кв. 26. Ларыса Шэндзяровіч. 4 клас.

✲ ✲ ✲

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 28. Лена Шут. 3 клас.

✲ ✲ ✲

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 41. Коля Латушкін 5 клас.

✲ ✲ ✲

**БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 3, кв. 2-а. Максім Чысцюнін. 5 клас.**

✲ ✲ ✲

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 4. Люда Жураўская. 5 клас.

✲ ✲ ✲

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 53-А, кв. 53. Інна Казлоўская. 6 клас.

✲ ✲ ✲

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 53-А, кв. 53. Ларыса Казлоўская. 7 клас.

✲ ✲ ✲

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 100, кв. 62. Юлія Хадачынская. 5 клас.

## малюнкі школьнікаў



Маляваў Марцін Куптэль, вучань першага класа са школы № 3 у Бельску. Малюнак называецца „Вёска маёй бабулі".

Алег Назараў

# ЦІ КУХНЯ — БАБСКІ ЗАНЯТАК?

Здарылася гэта летам у лагеры. Наша група была дзяжурнай. Нехта стаяў на варце, нехта даглядаў малодшых, якія пайшлі на рэчку, нехта збіраў галлё да вогнішча. Ну, а я... Я трапіў на кухню!

Можаце ўявіць сабе мой настрой, калі наш застэмп паявіўся перад кухарам дзядзькам Іванам.

— Дзяўчаткі, можаце накрываць на стол? — усміхнуўся ён. — Вось і добра. Я папрашу вас разліць кісель, добра? Ну, а цябе, — кухар паглядзеў на мяне. — Але што ў цябе такі кіслы выгляд?

— Таму што я не люблю займацца бабскімі справамі! — выпаліў я.

— Бабскімі? — перапытаў дзядзька Іван і паглядзеў на мяне хітравата. — А ты, дарэчы, чытаў кніжкі Аляксандра Дзюма?

— Пэўна! — буркнуў я. — Гэта мой любімы пісьменнік.

— А ці ты ведаеш, што аўтар „Трох мушкецёраў" і „Графа Монтэ-Крыста" быў вялікім знаўцам кухарскага мастацтва і нават склаў „Вялікі кулінарны слоўнік"?

— Немагчыма?! — не паверыў я.

— Не ведаеш. А чуў што-небудзь аб пекары Эўрысаку? Тым самым, каму пастаўлены помнік у Рыме? Не чуў... Ну, тады скажы, за што французская кухара Нікола Апера ўзнагародзілі ганаровым званнем „Дабрадзей чалавецтва"? Таксама не ведаеш? За тое, што вынайшаў кансервы! А гаворыш — бабская справа!

У той дзень я хадзіў за дзядзькам Іванам як прывязаны, слухаў усё, што ён тлумачыў, зачаравана назіраў за яго спрытнымі, акуратнымі рухамі.

Я часта ўспамінаю сёння тыя першыя „ўрокі" кулінарнага майстэрства, якое стала на доўгія гады маім захапленнем. Успамінаю, таму што і сёння многія хлопцы аднолькава да нарыхтоўкі ежы як да нечага страшна нуднага і нецікавага. А кулінарыя — гэта ж неад'емная частка культуры чалавецтва, з захапляючай, часам „крымінальнай" гісторыяй, поўнай загадак і адкрыццяў, знаходак і страт, прыгод і кур'ёзаў.

„Я раблю ўсё магчымае, каб трапіць туды, дзе мне ўдасца знайсці... прыправы", — запісаў у сваім дзённіку Хрыстафор Калумб. А вось які загад даў іспанскі кароль Карл I вядомаму мараплаўцу Фернанду Магелану: „Паколькі мне дакладна вядома, што на астравах Малука ёсць прыправы, я пасылаю вас галоўным чынам на пошукі іх, і мая воля такая, каб вы накіраваліся проста на гэтыя астравы". З экспедыцый за вострымі духмянымі ўсходнімі прыправамі без якіх не магла абыходзіцца еўрапейская кухня, пачыналіся Вялікія геаграфічныя адкрыцці.

Многія вучоныя зрабілі вялікія „кулінарныя" адкрыцці. Мікалай Капернік запрапанаваў намазваць масла на хлеб — атрымаліся бутэрброды (канапкі). Англійскі фізік Б. Томпсан прыдумаў кафейнік з фільтрам. Д. Мендзялееў доўгія гады займаўся пытаннямі сыраварэння.

Не саромеліся стаяць ля пліты і вядомыя пісьменнікі, мастакі, музыканты. Італьянскі кампазітар Д. Расіні сваіх сяброў найахвотней прымаў на кухні. А калі адзін з іх вельмі доўга захапляўся „Севільскім цырульнікам", кампазітар не вытрымаў і сказаў: „Што там „Цырульнік"! Паспрабуй лепш паштэт, які я сам зрабіў, а потым ужо будзеш мяне хваліць"!

Вядома, смачна варыць у адзін дзень не навучышся. Недарма ж кухарская справа — гэта не проста рамясло, а майстэрства. І як усялякае майстэрства, мае свае законы, хітрасці, таямніцы. Здараецца, рыхтуеш нешта дакладна па рэцэпту, а спрабуеш на смак — нешта не так, нечага не хапае. Значыць, забыўся нейкі сакрэт. Але затое як радасна, калі страва ўдалася! На ўсё жыццё, мабыць запамятаю я смак свайго першага боршчу, які я зварыў ужо дома пасля вяртання з лагера.

Адным словам, запрашаю ў захапляючы свет кулінарыі! Шлях да цудаў, якія адбываюцца ў каструльцы або на патэльні, адкрыты для кожнага. А пачаць можна...

Працяг у наступным нумары

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А




*Калі разгледзіш постаці і іх цені, пераканаешся, што адны не падыходзяць да другіх. Падумай, які цень належыць да якой асобы.*


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка"

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

# Я УДЗЯЧНЫ ЛЕСУ

Словы Г. БУРАЎКІНА Музыка Я. ГЛЕБАВА



Словы Г. Бураўкіна
Музыка Я. Глебава

*Я ўдзячны лёсу, што з усіх краёў*
*Ён выбраў для мяне навекі гэты,*
*Дзе бальшакі прастуюць між гаёў,*
*А па сцяжынках коцяцца ранеты,*
*Дзе Нарач мые сінія шаўкі*
*І п'юць Дняпра паўдзённыя вясёлкі,*
*Дзе з салаўямі дружацца шпакі*
*І не змаўкаюць перапёлкі.*
*Я ўдзячны лёсу, што ў сябры мне даў*
*Далёкія і блізкія дарогі*
*Да прыамурскіх сосен і застаў*
*І да вяршынь Паміра крутарогіх,*
*Да кіеўскіх пявучых вечароў*
*І прыбалтыйскіх гаркаватых ветраў,*
*Да звонкіх чар малдаўскіх ганчароў*
*І ціхай веліч Ай-Петры.*
*Я ўдзячны лёсу, што ва ўсе часы*
*Мая блакітнавокая радзіма*
*Не засланіла мне чужой красы,*
*Мяне ад свету не адгарадзіла.*
*Ты, Беларусь, не ўмела быць другой,*
*Жыла ў братэрстве і сяброў цаніла.*
*І ўсе ў краіне нашай дарагой*
*Цябе завуць сястрою мілай.*

# НІЎКА



### ДЗВЕ ХЛУСНІ

Аднойчы Васіль кажа Паўлу:

— Ведаеш, сусед, я ўчора меў цікавы выпадак. Увязаў каня на пастаўніку, а сам пайшоў дамоў, бачу праз акно, конь мой скача і рвецца, як апантаны. Што яму ёсць, думаю. Пайшоў я глядзець, а яго заяц кіем валіць.

— Я, — кажа Павал, — меў пазаўчора цуда. Замкнуў хату і пайшоў у вёску. Прыходжу дамоў, чую, хтось у хаце кашляе. Божа, думаю, хто ж туды забраўся?! Але што ж, іду. Бачу, на парозе сядзіць вош і так моцна кашляе, што аж вокны дрыжаць.

### АДРОЗНІЎ

— Сыночак, што ж ты так прыглядаешся да мух?

— Татачка, я хачу адрозніць, каторая з іх жонка, а каторая мужык.

— А па чым жа ты іх пазнаеш?

— А вось: тая, што ля люстэрка круціцца — гэта жонка, а гэтая, што бутэльку нюхае, — мужык.



— Запомні, сынок!

Малюнак А. Папова



**Хітрасцю цэлы свет пяройдзеш, а назад не вернешся.**

### ЗВОЛЬНІЛІ

Пілу звольнілі з работы. А ў працоўнай кніжцы запісалі: „За прафесіянальную тупасць..."

— Ну, дзе ж справядлівасць? — рыпела пакрыўджаная. Працуючы, усе зубы з'ела — вось табе на: звальняюць за тупасць.

### МІНАЕ ХАТУ

— Трахім! Як твой пчальнік? Маеш карысць?

— О, яшчэ якую!

— Ці шмат мёду было?

— Мёду то не, але пчолы разоў з пяць пакусалі цешчу, дык цяпер, брат, маю хату за вярсту абыходзіць.

*

У дурной заўсёды смех ёсць у запасе.

*

Жыццё — быццам запах ад ежы, не ведаеш — калі прападзіць.

### СВЕДАК

Вярнуўшыся з работы дадому, жонка застала ў хаце мужа.

— Ага, цяпер ведаю, што гэта ты штодзённа співаеш смятану, а гаворыш, што кошка.

— Што я! Я ж сёння ані лыжкі смятаны не з'еў.

— Не з'еў, а я маю сведка на гэта.

— А ну, дзе той сведак, я яго на кусочкі разарву!

— Гэта зусім дурна. Вырывай свае вусы, бо на іх смятана.



„Пакляўся..."

— Чаму заплюшчваеш вочы, калі п'еш гарэлку?

— Я пакляўся, што і глядзець на яе не буду.

### ВЫРУЧЫЛІ

Калі Антон Петушкоў атрымаў сваю першую зарплату, да яго падышоў прафорг:

— Слухай, стары, паслязаўтра нашаму шэфу сорак. Па пяцёрачцы на падарунак скідаемся.

Петушкоў не пярэчыў: ён паважаў начальства.

Праз нейкі час да яго стала падляцеў супрацоўнік з суседняга аддзела.

— У нас жэніцца інжынер Курачкін, — паведаміў сарамліва.

Петушкову было вельмі шкада траячкі, але ён суцешыў сябе тым, што вяселле ў чалавека адзін раз бывае. Не паспеў засяродзіцца, як перад ім з'явіўся новы чалавек.

— Ведаеце, — сарамліва сказаў ён, — тэхнік Ціпуноў ідзе на пенсію.

За дзень у Петушкова пабывала яшчэ некалькі хадакоў. Збіралі грошы на пахаванне траюраднага дзядулі чарцёжніцы, на дзіцячую каляску шафёру, на дапамогу кадравіку, у якога згарэлі ці то дача, ці то галубятня...

Дома жонка абазвала Петушкова дурнем, бразнула дзвярамі. Усю ноч ён не мог заплюшчыць вочы, у галаву лезлі сумныя думкі. Раніцай Петушкоў быў падобны на злёгку крануты марозам гладыёлус.

— Што з табой? — ахнуў прафорг.

— З жонкай пасварыўся, — паскардзіўся Петушкоў, — а грошай — ні капейкі...

— Нічога, трымайся, стары, штонебудзь прыдумаем, — супакоіў яго прафорг.

У канцы дня Петушкову сабралі і ўручылі грошы. Амаль столькі ён атрымаў учора ў касе.

**Аляксандр Ліхач**





### ДА СЫНОЎ НЕ ВЫЙШЛА

— Вы не людзі! Вы ходзячыя, здзічэлыя кавалкі чалавечага мяса! Каб 9 год не наведаць маці! Гэта маральнае злачынства! — крычала Антолька-інвалідка. — Не хату вам, а дулю!

Шчырая праўда згасіла эгаістычныя эмоцыі сыноў, і стала ім няёмка працягваць лаянку. Яны са сваімі жонкамі і дзецьмі селі ў легкавыя машыны і паехалі да маці, у Дом старых, каб пераканаць яе, што яна павінна зрабіць на іх завяшчанне на хату і агарод, а не на Антольку.

— У вас тут жыве Матрона, мы хочам з ёю пабачыцца, — звярнуліся сыны да службы Дома.

— А хто вы для яе? — запытала жанчына.

— Мы яе сыны, — заявілі з гордасцю.

— Сыны? — здзівілася тая. — А адкуль вы ўзяліся? Мы ведаем, што ў Матроны дзеці паўміралі. Яна зусім адзінокая.

Андрэй збянтэжаны пачаў высвятляць, але жанчына пайшла паклікаць яе з пакоя.

Матрона горка заплакала, потым глыбока задумалася, а, нарэшце, прагаварыла:

— Добра ведаю, што я ім непатрэбная. Таму да іх не выйду. Вось гэтая інвалідка, што прыходзіць да мяне ўжо 9 год найбліжэйшая мне асоба Так і скажыце ім.

Працаўніца ўсё гэта пераказала сынам Матроны.

І яны ад'ехалі, апусціўшы насы. **(мх)**

## МІЖ НАМІ

**Як бедны мужык есць курыцу, тады напэўна: альбо хворы мужык, альбо хворая... курыца.**